

# ВІЦЕБСКІ РАБОЧЫ

Абласная незалежная масавая газета

Выдаецца з лістапада 1917 г.

Серада, 15 снежня 1993 г.
№ 162 (19297) Цана 15 руб.


# Падзеі. Факты. Каментарыі

## «А Ў НАС — НАВАСЕЛЛЕ!»

Нестабільнасць эканомікі, рост цэн, беспрацоўе хвалююць сёння вельмі многіх. Спыняюцца прадпрыемствы, скарачаюцца рабочыя месцы. Людзі вымушаны месяцамі "гуляць" у водпусках без захавання заробку. І ў той жа час як прыемна пачуць на звычайнай вясковай вуліцы гамонку дзяцей: "А ў нас — наваселле"!

10 снежня ў вёсцы Чапукі адбылася падзея, якая ўвойдзе ў гісторыю гэтых мясцін. Гасцінна адчыніла дзверы Чапукоўская базавая агульнаадукацыйная школа. Няпростым быў шлях да гэтага свята. Яшчэ гадоў сем назад у старшыні калгаса "Кастрычнік" Васіля Юльянавіча Дзегіля выспела думка аб будаўніцтве школы. Ён паціхеньку пачаў хадзіць па кабінетах розных начальнікаў, шукаць падтрымкі і дапамогі ў практычным ажыццяўленні задумы. Прыкладна праз два гады быў падрыхтаваны праект. Але будаўніцтва пачалося толькі летась. Калгас узяў у Ашчадным банку два мільёны рублёў крэдыту. Вось тады і разгарнуліся работы на новай будаўнічай пляцоўцы. Як бачым, праз год новы будынак здадзены ў эксплуатацыю. А ў перспектыве тут мяркуюць пабудаваць дзіцячы сад і плавальны басейн.

На ўрачыстае адкрыццё школы прыехалі старшыня абласнога Савета, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Уладзімір Панцялеевіч Кулакоў, старшыня райвыканкома Іван Уладзіміравіч Паплаўскі, кіраўнікі будаўнічых арганізацый раёна і вобласці.

Ля будынка ў 10 гадзін раніцы сабраліся дзеці, іх бацькі, прыйшлі многія вяскоўцы. У.П.Кулакоў і І.У.Паплаўскі перарэзалі традыцыйную чырвоную стужку.

Начальнік МПМК-55 Валерый Мікалаевіч Брыль на прыступках ганка ўручыў дырэктару школы Валерыю Анатольевічу Драбу сімвалічны ключ. Расчыняюцца дзверы, і ўсе прысутныя ўваходзяць у прасторны і светлы будынак. Урачыстасць пераносіцца ў актавую залу. Школьнае наваселле ператварылася ў вялікае агульнае свята.

Л.КАСАТЫ.
Фота К.БЛАЖЭВІЧА.



## КОЖНЫ ПАДПІСЧЫК "ВІЦЕБСКАГА РАБОЧАГА" — ПАД АПЕКАЙ СТРАХАВОЙ КАМПАНІІ

Чым можа газета дапамагчы ў гэтай цяжкай эканамічнай абстаноўцы, у якой мы ўсе сёння апынуліся? Хіба паспагадаць, звярнуць увагу на беды і нягоды тых, каму з кожным месяцам усё цяжэй?

Хаця "Віцебскі рабочы" знайшоў спосаб пасабіць чытачу і зусім рэальна. Кожны, хто выпісваў газету на другую палавіну сёлетняга года, аўтаматычна застрахаваўся на суму 10 тысяч рублёў. Як вядома, на той час, калі падпіска вялася, гэтыя тысячы былі куды больш каштоўнымі, чым цяперашнія. Квітанцыя аб падпісцы з'яўлялася адначасова і страхавым дакументам, які пры няшчасным выпадку можна прад'яўляць у адпаведныя прадстаўніцтвы Дзяржаўнай страхавой кампаніі Рэспублікі Беларусь — СКАРБ.

Жыхарка горада Полацка Галіна Міхайлаўна Ананчанка, якая выпісвае і чытае "Віцебскі рабочы" ўжо шмат гадоў, пасля няшчаснага выпадку, які з ёй здарыўся, не адразу і спахапілася, што можа атрымаць кампенсацыю, не маючы страхавога поліса. Але ўзгадала, што ў яе ёсць квітанцыя на "Віцебскі рабочы" і пайшла з ёй і з медыцынскай даведкай у гарадское страхавое прадстаўніцтва. Спатрэбілася літаральна некалькі мінут, як ёй аформілі выплату адпаведнай сумы. Хоць нейкае суцяшэнне ў нялёгкіх жыццёвых выпрабаваннях.

Не давядзі лёс, каб на нас яшчэ валіліся і няшчасныя выпадкі! Але застрахавацца нікому не пашкодзіць. Тым больш і такім простым чынам: падпісваючыся на газету "Віцебскі рабочы" і тым самым без лішніх фармальнасцей становячыся і ўладальнікам дакумента аб страхаванні. А на першы квартал новага года суму страхоўкі рэдакцыя павысіла ў дзесяць разоў, яна цяпер роўная 100 тысячам рублёў.

Д.ЯСЬКОВА,
дырэктар Полацкага гарадскога прадстаўніцтва СКАРБ.

## Экспрэс — інфармацыя

*Па апошніх звестках расійскага радыё на выбарах у Дзяржаўную думу Расіі лідзіруе з вялікім адрывам Ліберальна-дэмакратычная партыя Жырыноўскага. На другім месцы блок "Выбар Расіі", на трэцім Камуністычная партыя Расіі. Па звестках амерыканскай кампаніі Сі-эн-эн, расклад некалькі іншы: Камуністычная партыя на другім месцы, а "Выбар Расіі" на трэцім.*

**У адным са сваіх інтэрв'ю Жырыноўскі заявіў, што першыя крокі яго будуць такія: спыненне канверсіі, а таксама вызваленне з пасад некаторых міністраў. З Ельцыным ён абяцае знайсці агульную мову.**

*Натуральны прырост насельніцтва ў Беларусі апошнім часам інтэнсіўна скарачаецца, а вось колькасць грамадзян рэспублікі пры гэтым пастаянна расце. Гэты арыфметычны казус заўважылі нядаўна супрацоўнікі Дзяржаўнага камітэта па статыстыцы і аналізу. Аказваецца, насельніцтва рэспублікі штомесячна папаўняецца за кошт прытоку грамадзян беларускай нацыянальнасці з "гарачых" кропак былога Саюза.*

**Мэр Санкт-Пецярбурга А.Сабчак падпісаў нядаўна распараджэнне, згодна з якім асобы, якія не маюць адносін да арміі і органаў бяспекі, не маюць права хадзіць па горадзе ў камуфляжных касцюмах ахоўнага колеру. Як высветлілася, прычына такой меры заключаецца ў тым, што падобнае адзенне нярэдка апранаецца злачынцамі для маскіроўкі — яны адкрыта выкарыстоўваюць армейскую форму ў час "скокаў".**

*У Літве прайшлі вобыскі ў мясцовых кіраўнікоў рускіх асветных і дабрачынных арганізацый, у тым ліку ў трох жанчын. Адну з іх распранулі дагала, трымалі пад дулам аўтамата, сыну пагражалі, каб нічога не расказваў у школе. Забралі Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека, выпіскі з мясцовых законаў аб нацыянальных меншасцях, цікавіліся, навошта трымаюць кнігі Маркса і Леніна. Почарк усё той жа — ад Зубатава, ад Яжова, ад таго прэфекта паліцыі, які, што б ні здарылася ў Парыжы, кожны раз арыштоўваў двух-трох сацыялістаў і двух-трох анархістаў.*

**Еўрапейскае бюро Сусветнай арганізацыі аховы здароўя папярэдзіла органы аховы здароўя аб успышцы захворванняў грыпам А ў Вялікабрытаніі, Фінляндыі, Швецыі і асобных раёнах Францыі. Мяркуючы па ўсім, у Еўропу прыйшла эпідэмія гэтай хваробы. Медыкі Расіі не выключаюць магчымасці прыходу грыпу на еўрапейскую частку былога Саюза ў пачатку наступнага года.**

*Калі балельшчыкі на зімовых Алімпійскіх гульнях 1994 года ў Ліллехамеры застануцца галоднымі пасля прыёму ежы, то яны заўсёды могуць з'есці талерку. Як паведамілі арганізатары гульняў, яны заказалі адпаведную пасуду ў адной са шведскіх фірм. Талеркі зроблены з сухой бульбы, а лыжкі, відэльцы і нажы — таксама з экалагічна чыстага матэрыялу на аснове маіса. "Талеркі жарсткаватыя, але я сам з апетытам з'еў дзве" — пахваліўся журналістам прадстаўнік аргкамітэта Алімпіяды.*

Паводле паведамленняў газет, радыё і тэлебачання.

## ПЕРАДНАВАГОДНІ ДЫЯЛОГ З ЧЫТАЧАМІ

**15 і 16 снежня з 15 да 18 гадзін на прамой сувязі дзяжурныя гарачага тэлефона**

Шаноўныя чытачы! 1993 год адлічвае свае апошнія дні. Што ён вам прынёс, ці апраўдаў вашы спадзяванні і надзеі? З якім настроем сустракаеце Новы год? Мы гатовы выслухаць вас, шаноўныя чытачы. У гэтую сераду і чацвер з 15 да 18 гадзін на прамую сувязь з вамі выйдуць дзяжурныя гарачага тэлефона, з якімі вы вялі размову на працягу года.

Вы можаце выказацца па любым пытанні, звярнуцца да сваіх дэпутатаў і ўлад, прыгадаць вясёлыя і сумныя гісторыі, прачытаць забаўныя радкі, вершы, частушкі... У вас ёсць шанц праз газету павіншаваць з Новым годам самага блізкага чалавека. Ваша віншавальнае слова дойдзе да сына ці ўнука, які служыць у арміі, бо нашу газету выпісваюць і чытаюць у воінскіх часцях, якія размяшчаюцца на тэрыторыі вобласці.

Калектыўная справаздача дзяжурных будзе апублікавана ў навагоднім нумары.

У гэтыя два дні мы будзем з вамі на прамой сувязі. Званіце па тэлефонах: 37-34-40, 37-30-43, 37-31-56, 37-01-45, 37-06-54, 37-31-34, 37-35-44. Нашы чытачы з Оршы, Полацка, Наваполацка, Глыбокага і Шуміліна могуць звяртацца ў карэспандэнцкія пункты газеты. Чакаем вашых званкоў, шаноўныя чытачы!

## АБ ПРАВЯДЗЕННІ ЧАРГОВАГА ПАСЯДЖЭННЯ ІНФАРМАЦЫЙНА-ПРАВАВОГА ЦЭНТРА

Чарговае пасяджэнне інфармацыйна-прававога цэнтра абласнога Савета народных дэпутатаў адбудзецца 16 снежня ў 15 гадзін у малой зале абласнога Савета (вул. Гогаля, 6) па тэме: "Аб ходзе зямельнай рэформы ў вобласці і парадку перадачы зямлі грамадзянам Рэспублікі Беларусь у прыватную ўласнасць".

З інфармацыяй па тэме выступяць і дадуць адказы на пытанні адказныя работнікі і спецыялісты аддзела па зямельнай рэформе і землеўпарадкаванню, абласной падатковай інспекцыі, упраўлення архітэктуры і горадабудаўніцтва, камітэта па экалогіі, фінансавага ўпраўлення аблвыканкома, філіяла інстытута "Белгіпразем".

Запрашаюцца зацікаўленыя ў набыцці зямлі асобы, члены дачных і садаводчых таварыстваў.

# ВОСЬ ТАК І ЖЫВЁМ,

## або Боль і трывога аднаго саўгаса

Наша гаспадарка — саўгас "Глыбачаны" Ушацкага раёна — немаленькая. У яе вёсках і вёсачках жывуць 1511 чалавек. З іх працуюць у саўгасе 385, якім, як кажуць, патрэбна прывесці да ладу 8220 гектараў сельгасугоддзяў. Да райцэнтра 35 кіламетраў, а па гаспадарцы ад мяжы да мяжы — пад 30.

У лёсе людзей, якія тут жывуць, ад нараджэння і да смерці галоўную ролю адыгрывае іх родны саўгас. Амаль усе сродкі існавання людзі чэрпаюць менавіта тут, на сваёй зямлі. Ім трэба пракарміць не толькі сябе, але і нешта даць гараджанам. Жывём мы ў складаны час. Цяжка і ў вёсцы, і ў горадзе.

Дрэнна, канечне, без электрычнасці, цяпла, пыласосаў ці, скажам, электраміксераў. Але ж людзі гадоў якіх дзвесце ці трыста назад нічога гэтага не мелі, але жылі. Жыллё асвятлялі лучынаю, аралі сахой, насілі дамотканае адзенне. Ды жылі! Чаму? А таму, што ў іх быў хлеб.

Зразумейце правільна: я не заклікаю вярнуцца да сахі і лучыны. Не. Хачу толькі падкрэсліць, што першакрыніца існавання чалавецтва — хлеб наш надзённы.

Адгэтуль лагічна — мяркую — сельскай гаспадарцы аддаць прыярытэты. А што ж на справе?

А вось што. Саўгас за апошнія, найбольш цяжкія, тры гады вытворчасць практычна не зніжае. І па некаторых паказчыках нават расце. За 10 месяцаў бягучага года мы прадалі дзяржаве 1500 тон збожжа, 1117 тон малака, 186 тон мяса, 100 племянных нецелей (у нас племсаўгас). За гэта мы выручылі (улічваючы і 52 мільёны надбавак за якасць), 286 мільёнаў рублёў.

Багацей, скажа нехта. Ды дзе там! Зарплату за жнівень мы атрымалі 12 кастрычніка, за верасень — 3 лістапада.

Дык дзе ж грошы? Куды ідзе, здавалася б, немалая саўгасная капейчына? Ідзе туды, куды, згодна з логікай, ёй не трэба ісці. І не мы вінаватыя ў тым, а ўся наша сённяшняя бязладная сістэма ўзаемаадносін паміж вёскай і горадам, паміж вытворцам і спажыўцом, паміж дзяржаўнымі і камерцыйнымі структурамі, паміж законам (а можа беззаконнем?) і рэальным жыццём.

Пацвярджэнне гэтаму побач. Выйшаў закон: кожнай гаспадарцы выдзеліць да гектара зямлі. Але ў гаспадарцы бывае і адзін чалавек (скажам, пенсіянер), і 6 — 7, а стрыжом усіх пад адзін грэбень. Ну, добра, зямлю раздалі — аж за 700 гектараў. У саўгасе ўзнік як бы маленькі калгас, у якім 466 галоў буйной рагатай жывёлы, 2000 свіней, коні і ўласная тэхніка. Тут і апрацоўка зямлі, і ўборка ўраджаю, і нарыхтоўка кармоў, і закуп малака і мяса ў насельніцтва. Так, за 1992 год закупілі 600 тон малака. Аднак на самай справе гэтыя лічбы значна вышэй, таму што ўсе 1500 чалавек практычна, акрамя хлеба, малака, бульбы, мяса,ў магазінах нічога не купляюць, а яшчэ і прадаюць на рынку і здаюць у нарыхтоўчыя арганізацыі. І нямала вывозяць у горад. І практычна ўсё гэта робіцца прама або ўскосна з дапамогай саўгаса.

Але паслухаем тых, хто хоча хутчэй разагнаць калгасы і саўгасы. Уявім сабе, што мы падзялілі зямлю і маёмасць саўгаса. Прыпыніцца работа кацельні, змерзнуць школьнікі, малыя ў дзіцячым садку, замерзне ў нятопленай кватэры парадзіха і нованароджаны... А каму аддаць зернесушылку магутнасцю 30 тон у гадзіну? Дзе фермер будзе сушыць сваё збожжа, хто прывядзе ў парадак дарогу для аўталаўкі, хто будзе ўтрымліваць пажарныя машыны, дзе фермер адрамантуе сваю тэхніку, хто зробіць капітальныя пабудовы для жывёлы (саму жывёлу, канечне, можна падзяліць і з'есці)? Дзесяткі гэтых дзе? што? чаму?

Можа, фермер калі-небудзь і накорміць краіну, але зараз рушыць тое, што будавалася і набывалася дзесяцігоддзямі. Гэта, выбачайце, дзікунства.

Мне могуць запярэчыць, што, маўляў, ніхто і не збіраецца рушыць калгасы і саўгасы, чаго ты лямантуеш? Так, на словах быццам і не збіраюцца. На справе ж абыякавыя, каб не сказаць больш, адносіны да аграрнага сектара з боку дзяржаўных структур,і ўлады вядуць справу менавіта ў гэтым напрамку — да заняпаду калектыўнай гаспадаркі.

Возьмем тую ж кацельню. Яна нам стала косткай у горле. Толькі на яе рамонт пайшло звыш 18 мільёнаў рублёў. Патрэба ў паліве на сезон — 1000 тон мазуту. Зараз маем 150 тон, набытых па сціплых дзяржаўных цэнах. Дзе ўзяць нехапаючыя 850 тон? А дзе хочаш. Дзяржава не дае — няма нафты, а значыць, няма мазуту. Можна купляць у камерсантаў па 70 долараў за тону. Цяпер бачыце, якія мы багацеі — калі выкупіць мазут, то на зарплату, бензін, салярку, будматэрыялы, запчасткі і г.д. не застанецца нічога. Вось тая бездань, куды ляціць наша капейка.

Яшчэ можна было б неяк мірыцца, каб кацельня працавала на саўгасныя патрэбы. А то акрамя вытворчых памяшканняў і саўгаснага жылля пад 150 кватэр, ацяпляем сярэднюю школу, дзіцячы садок на 140 месц (з якіх занята 20), магазін, сталовую, Дом культуры, музычную школу, бібліятэку, аптэку, аддзяленне сувязі, нарыхтоўчы пункт, Дом ветэранаў, шмат прыватызаваных кватэр, кватэр працаўнікоў іншых арганізацый. А грошы плаціць ніхто не хоча. Праўда, заплаціў за школу 6 мільёнаў раённы аддзел адукацыі. А як спагнаць астатняе, што складае амаль трэць выдаткаў на паліва? Вось такі сумны баланс. Дакладней, не баланс, а баласт, які, відаць, даканае наш саўгас. Праўда, ёсць пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь аб перадачы аб'ектаў сацкультбыту на баланс мясцовых Саветаў за сродкі дзяржавы. Але пастанова пастановай, а жыццё жыццём. Дурных, як кажуць, няма!..

Хацелася б яшчэ ведаць, ці турбуе нашы ўлады вось якое пытанне. Каб купіць іржавыя цвікі або трактар, усюды патрэбна папярэдняя аплата. Інакш не возьмеш ні ласкай, ні пагрозай. І вось гэта "папярэдняя плата" ляжыць часам месяцамі, калі, скажам, няма тавару. А за гэты час грошы з'ядае інфляцыя. Гэта дрэнна, але што ты зробіш, калі такі парадак быў для ўсіх. Дык не. Для аграрнікаў парадак зусім іншы. Яны сваё зерне, мяса, малако аддаюць за дзякуй — у лепшым выпадку (калі прыёмшчыкі ветлівыя). А тыя грошы плаціць не спяшаюцца. У жніўні, напрыклад, мы здавалі зерне Полацкаму камбінату харчовых прадуктаў. Даўжок у 38 мільёнаў рублёў праляжаў да 3 лістапада і ператварыўся па наміналу ў 15 мільёнаў — менавіта столькі мы можам зараз купіць матэрыяльных сродкаў у лістападзе за 38 мільёнаў, колькі маглі б купіць іх у жніўні за 15. Адказ просты — урад не выдзеліў крэдытаў. Судзіцца з імі? Але судзіцца з імі тое ж самае, што судзіцца з урадам. Паспрабуйце, хто адважыцца... Добра, каб так рабіў толькі камбінат, а то і мясакамбінат нам павінен пералічыць 9 мільёнаў рублёў!

Альбо вось такі пасаж. У нас прыватызавана 53 кватэры. Грошы за гэта пайшлі ў бюджэт аблвыканкома. Нам жа пакінулі "прывілеі" ацяпляць гэтыя кватэры, забяспечваць вадой і г.д. Адключыць іх ад камунікацый нельга, такі закон. А дзе браць сродкі на гэта, ніхто не ведае. Выкручвайся як можаш.

А што робіцца з цэнамі на прамысловую прадукцыю? У так званы застойны час за 1 літр малака можна было купіць 1 літр бензіну, цяпер 150 грамаў, за 1 кілаграм мяса — 10 кілаграмаў бензіну, цяпер — 1 кілаграм.

І за электраэнергію даводзіцца разлічвацца па курсу расійскага рубля, праўда, тут без папярэдняй аплаты. Такія прыклады можна прыводзіць бясконца. Толькі каму гэта трэба?..

Грубы падлік паказвае: выкруціцца можна, калі прадаць усю жывёлу, кармы і насенне, а рабочых саўгаса пакінуць на зіму без зарплаты...

Статыстыка сведчыць: на сяле імкліва скарачаецца колькасць працаўнікоў-вытворцаў. Хто ж будзе працаваць за зарплату, якая часам ніжэй за пенсію? Калі ўсё застанецца паранейшаму, то недалёка дзень, калі адзін толькі дырэктар сядзе за руль трактара.

Лічу, што калі нічога не зменіцца, гэты прыгнёт прымусіць калгасы і саўгасы самаліквідавацца і паставіць людзей перад голадам. Падумайце, панове, ці не сячом мы сук, на якім сядзім?

Дзе ж выйсце, у чым яно? Лічу, па-першае, трэба карэнным чынам змяніць цэнавую палітыку так, каб паміж прамысловасцю і сельскай гаспадаркай усталяваўся эквівалентны абмен. Па-другое, у выпадку захавання сістэмы папярэдняй пастаўкі дзяржаве сельгаспрадукцыі пры затрымцы плацяжоў запазычанасці павінны індэксавацца ў адпаведнасці з узроўнем інфляцыі за гэты перыяд. Па-трэцяе, трэба стварыць умовы для працаўладкавання гарадскіх беспрацоўных у сельскай гаспадарцы. Чацвёртае, калі не спыніцца нафтавы голад, на сяле трэба будаваць толькі аднапавярховае жыллё з пячным ацяпленнем. Пятае: усе аб'екты сацкультбыту перадаць на баланс мясцовых Саветаў. Шостае: прывесці ў строгую адпаведнасць з законам надзяленне зямлёй індывідуальных гаспадарак, спыніць разбазарванне дзяржаўнай зямлі. Сёмае: не рэгламентаваць структуру пасеваў. Гаспадаркі павінны мець права сеяць тое, што ім выгадна і рэалізаваць сваю прадукцыю таму пакупніку, які больш заплаціць, ліквідаваць сістэму так званых дзяржзаказаў. Пераарыентаваць прамысловасць на тэхнічнае аснашчэнне сялянскай, фермерскай гаспадаркі, каб не ламаць магутныя трактары на агародах.

Нам трэба ўсімі сіламі захаваць тое, што набыта дзесяцігоддзямі. Трэба быць гаспадарамі на зямлі, вырошчваць хлеб. Для тых, хто сее і ўбірае ўраджай, хто працуе на заводах і шахтах, у школах і ў бальніцах. І для тых, хто, як гэта ні парадаксальна, строіць дурня, седзячы на шыі ў працаўнікоў...

Карыстаючыся выпадкам, хачу шчыра падзякаваць за працу нашым хлебаробам, жывёлаводам, усім, хто ў нялёгкіх умовах сённяшняга дня корміць народ.

**Паклон вам нізкі!**

**ВалерыйГАРБАЦЕНКАЎ,**
**дырэктар племсаўгаса "Глыбачаны".**

◆ *АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю*

# Не тая праблема, якую можна ігнараваць

**Як ні цяжка складваецца эканамічная сітуацыя на сяле, сапраўдныя хлебаробы ўжо жывуць днём заўтрашнім: рамантуюць тэхніку і прычапны інвентар, назапашваюць арганіку, даводзяць да ладу насенне. Значэнне апошняй работы пераацаніць немагчыма. Прапануем увазе чытачоў інтэрв'ю з начальнікам абласной дзяржаўнай насеннай інспекцыі С.В.ФІЛІПАВЫМ, у якім ён аналізуе ход падрыхтоўкі насеннага матэрыялу яравых збожжавых да веснавой сяўбы будучага года.**

— Памятаеце, якое было дрэннае надвор'е ў час жніва, — пачаў размову Сцяпан Васільевіч. — Практычна ўсе гаспадаркі аказаліся ў аднолькавых умовах. А вось вынікі работы па падрыхтоўцы насення, на жаль, розныя. У гэтай справе неабходны істотны рух наперад. На 1 снежня, напрыклад, якаснае насенне яравых збожжавых першага і другога класаў маюць толькі 66 калгасаў і саўгасаў. У тым ліку саўгасы "Сокарава" і імя Раманава, калгас "Палітаддзелец" Бешанковіцкага раёна, калгасы "Звязда" і "Запаветы Ільіча" Віцебскага, імя Чарняхоўскага і "Уперад" Браслаўскага, "Камсамолец" і імя Суворава Докшыцкага, "Пражэктар" і "Бароўка" Лепельскага, калгас імя Чапаева і саўгасы "Крынкі", "Высачаны" і "Вішні" Лёзненскага, калгас імя Мічурына Пастаўскага, "Палац працы", імя Чапаева, "Мір" і саўгас "Сабалі" Чашніцкага, калгас "Расоны" Расонскага, "1 Мая" Шаркаўшчынскага, саўгас імя Машэрава Сенненскага раёна і некаторыя іншыя.

**— Дзе найбольш актыўна працуюць з насеннем зараз?**

— У Глыбоцкім, Чашніцкім, Шаркаўшчынскім, Міёрскім і Пастаўскім раёнах. Тут у многіх гаспадарках арганізавана двухзменная работа тэхнікі на таках. Гэта і прыносіць поспех. Я перакананы, што да 1 студзеня ачыстку насення мясцовыя хлебаробы завершаць.

Зараз паставіць бы такім чынам справу ў кожным раёне, кожным калгасе і саўгасе.. Для гэтага ёсць магчымасці. Патрэбна толькі жаданне. На жаль, яго хапае не ўсім. Вось і атрымліваецца, што на 1 снежня ў цэлым па вобласці абстаноўка з насеннем напружаная. З правераных у Дзяржнасенінспекцыях толькі 76 працэнтаў аднесена да кандыцыйнага, а ў Гарадоцкім раёне яго ёсць усяго 41 працэнт да правераных, у Лепельскім — 57 працэнтаў, у Талачынскім — 60, Верхнядзвінскім — 63 працэнты і Бешанковіцкім раёне 66 працэнтаў.

**— Па ўсім бачна, неабходна біць трывогу...**

— Цалкам згодзен з такой думкай. Даўно пара раённым упраўленням сельскай гаспадаркі і харчавання зрабіць сур'ёзныя вывады па аграномах асобных калгасаў і саўгасаў. Нельга мірыцца з тым, што на 1 снежня калгас імя Маякоўскага Гарадоцкага, саўгас "Задняпроўскі" Аршанскага, калгас "Дружба" Верхнядзвінскага раёна яшчэ нават не прыступілі да ачысткі і праверкі насення. Няўжо не разумеюць, што па іх віне гаспадаркі могуць застацца без якаснага насеннага матэрыялу.

Кошт насення цяпер такі, што нават эканамічна моцная гаспадарка не ў стане закупіць яго. Неабходна рыхтаваць самім. Між тым 12 гаспадарак вобласці наогул не маюць кандыцыйнага насення, у тым ліку калгасы "Чырвоны партызан" і "XXI партз'езд" Віцебскага, імя Суворава і імя Кутузава Гарадоцкага, "Іскра Ільіча" і саўгас "Перамога" Дубровенскага, калгасы "Радзіма" Лепельскага, К.Маркса і саўгас "Янкавічы" Расонскага раёнаў і некаторыя іншыя.

Не маюць насення 1 класа больш за 100 гаспадарак. Гэта калгас "Дружба" і эксперыментальная база "Астроўна" Бешанковіцкага, калгасы "Шлях Леніна" Браслаўскага, "Рассвет" Віцебскага, саўгасы "Іванаўка" і "Обаль" Гарадоцкага, калгасы "Прагрэс" і "Шлях да камунізму" Дубровенскага, саўгас "Грыгаравічы" Лепельскага, калгасы "Віцебскі рабочы" Лёзненскага, імя Мялешкі Полацкага, саўгас "Забалацце" Аршанскага, калгас імя Чапаева Пастаўскага, саўгасы "Гарбачэва" і "Голубава" Расонскага, калгасы імя Заслонава Сенненскага, "Комсомольская правда" Талачынскага раёна і некаторыя іншыя. Напрыклад, такіх гаспадарак у Віцебскім раёне 15, Гарадоцкім — 16, Дубровенскім і Ушацкім — 13, Сенненскім — 12, Полацкім — 11, Талачынскім — 10.

Думаецца, трэба зрабіць сур'ёзныя вывады. Якім насеннем будзем сеяць вясной? Ёсць жа станоўчы вопыт. Так, у цэлым па Шаркаўшчынскаму раёну на 1 снежня насенне 1 класа складае 57 працэнтаў. Мяркуючы па мэтанакіраванай рабоце, працэнт тут будзе большы. Добра ў гэтым плане працуюць агранsocio Міёрскага і Глыбоцкага раёнаў, дзе насенне 1 класа складае 52 і 51 працэнт.

**— Сцяпан Васільевіч, што скажаце ў заключэнне размовы?**

— Усімі сіламі неабходна паскорыць работы па падрыхтоўцы насення. Разабрацца па кожнай гаспадарцы. Магчыма, давядзецца перасяваць вясной азімыя. Так што якаснае насенне вельмі спатрэбіцца. Зрэшты, гэта не тая праблема, якую можна ігнараваць.

— Дзякуй за размову.

Гутарыў **М.АДАМАЎ.**

## ДАНЫЯ

### аб якасці насення (у працэнтах) на 1 снежня г.г.

**Першая графа — раёны, другая — праверана да плана, трэцяя — кандыцыйнага, чацвёртая графа — ёсць першага класа на зерне.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Шаркаўшчынскі | 100 | 92 | 57 |
| Міёрскі | 100 | 91 | 52 |
| Глыбоцкі | 68 | 95 | 51 |
| Лёзненскі | 122 | 78 | 43 |
| Талачынскі | 114 | 60 | 41 |
| Пастаўскі | 82 | 95 | 40 |
| Полацкі | 80 | 94 | 39 |
| Докшыцкі | 100 | 86 | 36 |
| Шумілінскі | 76 | 88 | 33 |
| Браслаўскі | 100 | 65 | 30 |
| Віцебскі | 92 | 81 | 28 |
| Расонскі | 75 | 80 | 28 |
| Сенненскі | 84 | 83 | 28 |
| Ушацкі | 105 | 84 | 24 |
| Чашніцкі | 72 | 89 | 24 |
| Бешанковіцкі | 56 | 66 | 23 |
| Аршанскі | 80 | 76 | 21 |
| Лепельскі | 103 | 57 | 16 |
| Дубровенскі | 100 | 63 | 14 |
| Гарадоцкі | 83 | 41 | 13 |
| Верхнядзвінскі | 62 | 63 | 13 |
| **Па вобласці:** | **90** | **76** | **31** |

◆ *САЦЫЯЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ*

## Сваімі сіламі будуецца інтэрнат

**Хоць цяжка сёння гэта рабіць, аднак у Аршанскай дыстанцыі пуці Мінскага аддзялення Беларускай чыгункі вынаходзяць сродкі для паляпшэння жыллёвых умоў сваіх працаўнікоў.**

**Цяпер, у прыватнасці, тут узводзіцца інтэрнат на 60 месц і тры катэджы для сем'яў чыгуначнікаў. Каб паскорыць тэмпы і знізіць сабекошт будаўнічых работ, усе гэтыя аб'екты чыгуначнікі ўзводзяць сваімі сіламі, для чаго створана спецыяльная брыгада.**

**І. КОГАН.**

## ЯШЧЭ АДНА КАМПАНІЯ

**Эканамічны крызіс балюча б'е па ўсіх. Але цяжэй, бадай, авіятарам. Да паліўнага голаду прыбавіўся яшчэ і тэхнічны знос. У рэспубліцы ў бліжэйшыя шэсць-сем гадоў выпрацуюць устаноўлены рэсурс і запатрабуюць спісання ўсе самалёты ТУ-134, палавіна ТУ-154 і 80 працэнтаў АН-24. І з чым застануцца беларускія авіятары?**

**Гэта і падштурхнула іх да аб'яднання — разам лягчэй шукаць выйсце. Створаны Беларускі саюз авіятараў. У яго ўвайшлі авіякампаніі "Белавія", "Бел Эйр лтд", "Трансавіяэкспарт" і Віцебскі аэрапорт. Выказалі жаданне аб'яднацца ў кампанію Мінскі авіярамонтны завод, прадпрыемства "Белавія ГЗМ", Мінскі авіяцыйна-тэхнічны каледж, беларуска-егіпецкае СП "Ахмос-1" і іншыя.**

**(Наш кар.).**

37-34-40
СЛУЖБА ЗВАРОТНАЙ СУВЯЗІ
## Гарачы тэлефон

# Дзе ўзяць сумленную ўладу?

**Практычна ўсе званкі ў той ці іншай ступені датычыліся адной праблемы: як жыць далей? Няспынны рост цэн, адсутнасць надзейнай сацыяльнай абароны ад прэсінгу новаспечаных рынкавых адносін паставілі значную частку насельніцтва ў надзвычай цяжкае матэрыяльнае становішча.**

**Не надае, на жаль, упэўненасці ў заўтрашнім дні і работа чарговай сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі: калі меркаваць па ацэнках чытачоў, пераважная большасць з іх не верыць, што дэпутаты ў стане змяніць сітуацыю ў лепшы бок.**

### «Засталася адна збалелая душа»

**Л.Б.Аглушэвіч** з адчаем у голасе пыталася: няўжо ўладу маючыя не разумеюць, што ў рэшце рэшт у людзей скончыцца цярпенне і вынікі гневу акажуцца непрадказальнымі. Асабіста яна адмовілася ўжо ад карыстання радыёкропкай. Проста не хапае грошай плаціць за яе. Хутка, відаць, давядзецца адмовіцца і ад тэлефона. Калі атрымліваеш пенсію ў 28 тысяч рублёў, звесці канцы з канцамі немагчыма. Гэта не жыццё, а здзек у прамым сэнсе слова.

Лідзія Барысаўна ў непаразуменні: няўжо чыноўнікі з гарвыканкома і абласнога Савета, якія па свайму службоваму абавязку павінны клапаціцца аб тым, каб у горадзе быў хоць нейкі парадак, не бачаць, што творыцца навокал: прадаўцы ў магазінах бессаромна абважваюць, усюды чэргі. Купляла нядаўна, паведамляе Л.Б.Аглушэвіч, цыбулю. Кошт амаль дзве тысячы рублёў. А якасць? Цыбуля напалавіну гнілая. І так усюды: якасць прадуктаў нізкая, кантралюючых кантор мноства, а карысці няма ніякай. Калі чалавек працуе сумленна, атрымлівае адну зарплату, ён не ў стане забяспечыць сям'ю.

Да чаго мы дажыліся?! Балбатня ў парламенце нікога не смешыць ужо, выклікае раздражненне. Народныя выбраннікі, якія ў свой час ірвалі на грудзях кашулі, сцвярджаючы, што будуць абараняць інтарэсы простых людзей, аказаліся эканамічнымі імпатэнтамі: гойсаюць на службовых аўтамашынах у Мінск і назад, займаюцца голым палітыканствам, вырашаюць свае асабістыя пытанні.

А час ідзе. Народ усё больш бяднее. Вось нядаўна газета пісала пра жанчыну, якая атрымала на пахаванне блізкага чалавека 75 тысяч рублёў. Скажыце, можна за такія грошы па-людску правесці ў апошні шлях нябожчыка? Што ж застаецца?

Самае жахлівае, на думку Лідзіі Барысаўны, што на скаргі ніводная ўладу маючая структура горада не рэагуе. Асабіста яна неаднаразова звярталася ў гарвыканком, абласны Савет, пісала дэпутатам — нуль увагі. Такое ўражанне, што хаос, неразбярыха, безадказнасць узведзены ў ступень нармальнага існавання людзей.

Што абвергнуць ці што дадаць да сказанага вышэй? Супакоіцца банальным: усё ў рэшце рэшт стане на сваё месца. Калі? Калі надыдзе светлае капіталістычнае заўтра? Нешта падобнае было ўжо, толькі з процілеглым знакам. Парадак, умовы, якія давалі б магчымасць не існаваць, а жыць па-чалавечы, патрэбны не заўтра і паслязаўтра, а сёння. Вось у чым галоўны корань праблемы. Інакш можа дайсці да таго, што, як заўважыла Л.Б.Аглушэвіч, у людзей ад такой палітыкі нічога не застанецца, акрамя адной збалелай душы.

**Наша даведка.** У заключэнне размовы Лідзія Барысаўна пыталася, ці маюць пры прыватызацыі жылля льготы былыя малалетнія вязні? У аддзеле сацыяльнага забеспячэння аблвыканкома нам паведамілі: гэта катэгорыя грамадзян ільготы мае. На гэты конт існуе пэўны закон. Службы раённых выканаўчых камітэтаў і гарвыканкома, якія займаюцца прыватызацыяй жылля, яго ведаюць. Каб не пераказваць сам закон, зазначым: пры афармленні дакументаў на прыватызацыю неабходна прыкласці да іх копію пасведчання вязня. Скідка вызначаецца пры разглядзе дакументаў органамі ўлады.

### «Пішыце праўду»

У пэўнай ступені думкі і высновы Л.Б.Аглушэвіч пераклікаюцца са званком нашай пастаяннай чытачкі **К.П.Лебедзевай. Як і многія гараджане, Кацярына Паўлаўна выпісвае адну газету — "Віцебскі рабочы", бо на іншыя выданні не хапае грошай. Жыццё стала настолькі дарагім, што прыходзіцца ў многім сабе адмаўляць.**

Непакоіць, засмучае К.П.Лебедзеву бяздумнае ахайванне і аплёўванне мінулага. У ім, зразумела, было нямала трагічнага і горкага, але ж нельга сцвярджаць, што старэйшае пакаленне пражыло жыццё марна, нічога не стварыла нашчадкам. Людзі ге пакалення добра памятаюць гады стваральнай працы, калі будаваліся шматлікія заводы і камбінаты. "Пішыце, — просіць Кацярына Паўлаўна, — толькі праўду. І пра Леніна ў тым ліку." І канкрэтная прапанова, хаця і не па адрасу: перадайце калегам з абласнога радыё і тэлебачання няхай уключаюць у свае праграмы як мага большую колькасць мясцовых навін. Самі на старонках газеты таксама друкуйце больш інфармацыі. Праўдзівай, пазбаўленай тэндэнцыёзнасці.

### Дапамажыце інваліду

Чытачка, якая папрасіла не называць яе прозвішча, расказала аб цяжкім фінансавым становішчы сям'і інваліда **А.М.Хахлова**, які працуе ў таварыстве сляпых. Заробкі ў сям'і вельмі малыя, а трэба будаваць кааператыўную кватэру. Адзін гарадскі банк даў пазыку, але яе хапіла толькі на першы ўзнос. Магчыма, хто-небудзь з багатых людзей паспачувае інваліду і дапаможа матэрыяльна.

Хочацца верыць, што гэтыя радкі прачытаюць людзі, у душах якіх сённяшняе жыццё не вынішчыла міласэрнасці і спагады.

### Проза жыцця

Частку званкоў мы згрупавалі наўмысна, бо яны хаця і носяць прыватны характар, датычацца, тым не менш, праблем агульнага характару.

У прыватнасці, **Г.В.Лаганунова** папрасіла абнародаваць такія факты. У магазіне № 137 вельмі цяжка атаварыць талоны на цукар. У іншых гандлёвых кропках, на яе думку, гэту праблему хоць неяк вырашаюць, чаго не скажаш пра згаданы вышэй магазін: ва ўсякім разе тут не ўдалося выкарыстаць яшчэ нават вераснёўскія талоны.

У **В.З.Краўчанка** свае прэтэнзіі да гандлёвых работнікаў: у магазінах практычна немагчыма купіць таннай бялізны. Дарагія рэчы па кішэні не кожнаму, ды звычайную бялізну яны не заменяць. Што рабіць у такіх рыначных грымасах простаму чалавеку?

Пастаянны падпісчык на газету "Віцебскі рабочы" **М.Гарміновіч** паскардзіўся, што атрымлівае яе ад выпадку да выпадку. Такія "парадкі" заведзены ў паштовым аддзяленні "Буяны" Віцебскага раёна. Не раз звяртаўся туды, але канцоў знайсці не ўдалося.

Нешта няладнае, на думку чытачоў **Н.Ф.Тароткінай** і **У.І.Васільева**, творыцца ў 38 паштовым аддзяленні горада. Каб атрымаць пенсію, даводзіцца выстаяць вялізную чаргу. Няўжо нельга навесці парадак? Нельга ж так здзекавацца са састарэлых людзей.

Наўрад ці ёсць неабходнасць каменціраваць гэтыя званкі: яны як лакмусавая паперка сведчаць аб тым, наколькі моцна разбурыўся механізм узаемаразумення ў грамадстве. На ўсіх узроўнях ён дае збоі. А пакутуюць людзі.

**М.КРЫЖАНОЎСКІ.**

# Боль наша неугасима, память — священна

## Уроженцы г. Витебска, а также воины, призванные Витебским горвоенкоматом, защитники и освободители города, не вернувшиеся с полей сражений в годы Великой Отечественной войны:

### 1944 год

**Косов Петр Федорович**, род. в 1922 г. в Витебске, рядовой, призван Витебским ГВК. Погиб в бою 16 ноября. Похоронен в Паневежисе Литовской ССР.

**Костенко Федор Евстигнеевич**, род. в Витебске (год рождения неизвестен), старшина, призван Витебским ГВК . Погиб в бою 8 апреля. Похоронен в Пушкино Горского р-на Калининской обл.

**Костка Никифор Григорьевич**, род. в 1906 г. в Витебске, гв.рядовой, призван Витебским ГВК в 1941 г. Погиб в бою 7 ноября. Похоронен в д. Павликен (Вост. Пруссия).

**Костыркин Александр Нестерович**, род. в 1912 г. в Витебске, рядовой, призван Витебским ГВК. Пропал без вести в августе.

**Косьмин Прокофий Фомич**, род. в 1909 г. в Суражском р-не, рядовой, призван Витебским ГВК 23 июня 1941 г. Пропал без вести в ноябре.

**Котенко Петр Мартынович**, род. в 1914 г. в Суражском р-не, рядовой, призван Витебским ГВК 23 июня 1941 г. Пропал без вести в августе.

**Коткин Яков Першевич**, род. в 1893 г. в Витебске, рядовой, призван Витебским ГВК в июне 1941 г. Пропал без вести в июле.

**Котович Алексей Павлович**, род. в 1907 г. в д. Зямково Бешенковичского р-на, рядовой, призван Витебским ГВК. Пропал без вести в октябре.

**Котович Антон Иванович**, род. в 1913 г. в Витебске, рядовой, призван Витебским ГВК в июле 1941 г. Пропал без вести в августе.

**Коронкевич Георгий Михайлович**, род. в 1898 г. в Витебске, рядовой, призван Витебским ГВК 22 июня 1941 г. Пропал без вести в ноябре.

**Корунный Афанасий Александрович**, род. в 1904 г. в д. Лущиха Витебской обл., призван Витебским ГВК 6 июля 1941 г. Пропал без вести в июле.

**Косьмин Прокофий Фомич**, род. в д. Н-Двор Суражского р-на, рядовой, призван Витебским ГВК в июне 1941 г. Пропал без вести в сентябре.

**Кохин Михаил Иванович**, род. в 1900 г. в Витебске, рядовой, призван Витебским ГВК в 1941 г. Погиб в бою 27 июля. Похоронен в г.Варена-1 Литовской ССР.

**Кочетков Федор Ефимович**, род. в 1923 г. в Витебской обл., рядовой, призван Витебским ГВК. Погиб в бою 11 августа. Похоронен на х. Шляншилян Мемельской волости (В.Пруссия).

**Кошелев Семен Васильевич**, род. в 1911 г. в Витебске, гв.рядовой, призван Витебским ГВК. Погиб в бою 3 марта. Похоронен в с.Сысоево Пустошкинского р-на Калининской обл.

**Кравцов Анатолий Николаевич**, род. в Витебске (год рождения неизвестен), военфельдшер, призван Витебским ОВК. Пропал без вести.

**Кравчинский Николай Федорович**, род. в Витебске (год рождения неизвестен), старшина, призван Витебским РВК. Умер от ран 26 октября. Похоронен в г.Каунас (В.Шанцы, военное кладбище, могила 70).

**Крам Бер Мовшевич**, род. в 1902 г. в Витебске, рядовой, призван Витебским ГВК 23 июня 1941 г. Пропал без вести в ноябре.

**Крами Владимир Александрович**, род. в 1923 г. в Витебске, рядовой, призван Мекенским РВК. Пропал без вести в декабре.

**Красильщиков Михаил Власович**, род. в 1902 г. в Ярцевском р-не Смоленской обл., рядовой, призван Витебским ГВК 23 июня 1941 г. Пропал без вести в августе.

**Краскин Залман Менделевич**, род. в 1903 г. в Велиже, рядовой, призван Витебским ГВК. Пропал без вести в сентябре.

**Краснов Леонид Петрович**, род. в 1908 г. в Витебске, рядовой, призван Витебским ГВК 4 июля 1941 г. Погиб в бою в августе.

**Краснов Петр Семенович**, род. в 1911 г. в д. Михальченки Селищанского с/с Городокского р-на, рядовой, призван Витебским ГВК. Пропал без вести в июне.

**Красовский Леонид Тимофеевич**, род. в 1923 г. в Витебске, рядовой, призван Витебским ГВК. Погиб в бою 7 августа. Похоронен в д.Чиган Биржяйского р-на Литовской ССР (могила 28).

**Кращенко Сергей Андреевич**, род. 1919 г. в Витебске, курсант. Пропал без вести.

**Крек Яков Максимович**, род. в д.Мишково (год рождения неизвестен), рядовой. Пропал без вести.

**Кривенко Александр Григорьевич**, род. в 1914 г. в Витебске, рядовой, призван Витебским ГВК. Пропал без вести 16 июля.

**Кривенко Иван Иванович**, род. в 1926 г. в д.Мишково, рядовой, призван полевым РВК в 1944 г. Погиб в бою 4 августа. Похоронен в д.Тучевицы Расейнского уезда Лит. ССР.

**Кривой Василий Степанович**, род. в 1913 г. в Витебске, рядовой, призван Витебским ГВК. Пропал без вести в июле.

**Кривошеев Иван Васильевич**, род. в 1907 г. в Медянском р-не Кировской обл., рядовой, пропал без вести в июле.

**Кривошеев Иван Николаевич**, род. в 1912 г. в Нешпаченском р-не Сталинградской обл., рядовой, призван Витебским ГВК. Пропал без вести.

**Кривченюк Лев Хаймович**, род. в 1899 г. в Витебске, рядовой. Умер от ран 25 марта. Похоронен в д.Хотемля Витебского р-на.

**Крипинов Федор Николаевич**, род. в 1915 г. в д.Титенки Витебской обл., рядовой, призван Витебским ГВК. Пропал без вести 18 августа.

**Крищенко Яков Евдокимович**, род. в 1919 г. в Суражском р-не, рядовой, призван Витебским ГВК в октябре 1939 г. Пропал без вести в августе.

**Кромов Филипп Филиппович**, род. в 1909 г. в Куйбышеве, рядовой, призван Витебским ГВК. Пропал без вести в сентябре.

**Крубанов Владимир Андреевич**, род. в 1906 г. в Витебске, рядовой, призван Витебским ГВК. Погиб в бою 30 июля. Похоронен в д.Палакоры Латвийской ССР.

**Круглов Семен Михайлович**, род. в 1901 г. в Витебске, рядовой, призван Витебским ГВК 25 июля 1941 г. Пропал без вести в августе.

---

**Працяг. Пачатак у нумарах за 11, 17, 18, 24, 25, 31 жніўня, 1, 7, 8, 14, 15, 21, 22, 29 верасня, 5, 6, 12, 13, 19, 20, 26, 27 кастрычніка, 4, 10, 16, 23, 30 лістапада, 7, 14, 15 снежня.**

---

**Усім, хто жадае дапамагчы ў выданні віцебскай гарадской кнігі "Памяць", паведамляем: грошы можна пералічыць на рахунак № 000705701 у Віткамбанку.**

◆ *ЯК НАС АБДУРВАЮЦЬ*

# Жыць можна і ад магілак

Даведка, якую прыслаў у сярэдзіне лістапада ўпраўленню Дзяржінспекцыі па гандлю і абароне правоў спажыўцоў Галоўнага ўпраўлення Дэпартамента эканамічнага кантролю пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь па Віцебскай вобласці дырэктар гарадскога спецкамбіната грамадзянскага абслугоўвання У.Д.Абраменка, гучыць нават больш журботна, чым пахавальны марш. Чатыры мільёны рублёў заработнай платы за кастрычнік запазычыла кіраўніцтва сваім рабочым. Плаціць няма чым. Таму што за цепла-і электраэнергію, водазабеспячэнне і іншыя паслугі трэба аддаць ужо 36 мільёнаў рублёў. Датацыя ж ад Віцебскага гарвыканкома на ўвесь бягучы квартал усяго 34 мільёны. Ды і тая амаль поўнасцю выкарыстана.

Чаму ж пра гэтыя цяжкасці Абраменка паведамляе арганізацыі, чые функцыі — не выдзяленне грошай, а кантроль за іх расходаваннем? Ды таму, што пасля візіту інспектараў Дэпартамента эканамічнага кантролю спецкамбінату трэба яшчэ раскашэліцца. І на вельмі салідную суму.

За што? Ды за тое, што кіраўнікі прадпрыемства панадзіліся набываць у сябе на вытворчасці разнастайныя будаўнічыя матэрыялы ну па вельмі смешных цэнах. Напрыклад, "заваляліся" на складзе дошкі хваёвыя, прызначаныя на дамавіны. Каштуюць яны нямала — каля дзесяці тысяч рублёў за кубаметр. Але сваім людзям, як галоўнаму механіку А.Я.Шакуру, іх прадаюць па 1027 рублёў. Узяў галоўны механік у лютым пяць кубоў і сэканоміў сабе 43270 рублёў.

Спадабалася гэта "механіка" і галоўнаму інжынеру камбіната В.Ф.Піменаву. Ён купіў у чэрвені таксама пяць кубаметраў дошак. Аддаў 8 тысяч. І сэканоміў амаль столькі ж. Сам дырэктар У.Д.Абраменка хутка навучыўся эканоміць уласныя грошы на дзяржаўных матэрыялах. Таксама ўзяў у нябожчыкаў іх апошнюю маёмасць. І таксама сэканоміў 7980 рублёў.

Абодва прыхапілі і па дзесятку пліт для могілкавай агароджы. І зноў па дужа смешных цэнах. "Наварылі" на гэтым па сто тысяч рублёў кожны.

Праз тры месяцы зноў наведаліся на склад: ці няма тут чаго танненькага? Знайшлі зноў дошкі. Галоўны інжынер узяў восем кубаметраў, дырэктар — дзесяць. Аддалі па 20 і 25 тысяч адпаведна. І сэканомілі сабе першы 70960 рублёў, а другі — 88700.

Пакорпаліся інспектары тут у накладных і войкнулі. Цягнула гэта тройца па дзяшоўцы з камбіната і ліставую сталь, і шклаблокі, і цэглу, і руберойд, і цэмент. І нацягалі аж на 808 тысяч рублёў.

А гарвыканкому пры гэтым пастаянна скардзіліся: вы ведаеце, што нашы даходы ну ніяк не пакрываюць расходаў, давайце датацыю, каб мы сваякоў памёршых не ўвагналі сваімі цэнамі ў дамавіну. І атрымлівалі. Толькі ў мінулым квартале ўзялі з казны 17 мільёнаў рублёў на пагашэнне страт ад рытуальных паслуг. Але, як аказалася, на гэтыя самыя паслугі выдаткавалі на 6 мільёнаў рублёў менш. А грошыкі ўсё роўна расходавалі. Напляваць, што не па прызначэнню! Гарвыканком добры, ён камбінату за 1993 год амаль 79 мільёнаў адваліў. З народнай кішэні. А як жа! Трэба ж клапаціцца пра тых, у чыю сям'ю прыйшло гора, браць частку іх расходаў на казённы рахунак.

Але толькі не тых расходаў, якія ўпісвалі ў той рахунак спадары Шакура, Піменаў, Абраменка і іншыя — агульная іх колькасць 8 чалавек. Ужо ў працэсе праверак ім давялося заплаціць дзяржаве 425 тысяч рублёў штрафаў.

А камбінату ў цэлым прапанавана выкласці больш за 13 мільёнаў рублёў (5,9 — гарадскому бюджэту, як неабгрунтавана атрыманых у выглядзе датацый, яшчэ столькі ж — штрафы за гэта).

Так і не дапамагла "слёзная" папера, складзеная дырэктарам для правяраючых. Дарэчы, яны заўважылі, што на гэтым камбінаце не толькі з грашыма працуюць неакуратна. На дамавіны ідуць тут такія дошкі, што шчыліны ў "вырабах" дасягаюць пяці сантыметраў, а зазор паміж вечкам і дамавінай бывае сантыметры тры.

Мёртвыя, кажуць, не сароменоцца. А жывым, відаць, проста не да гэтага...

**У.МІНЁНАК,**
**начальнік упраўлення Гасгандальінспекцыі.**
**Т.КУЗЬМІЧ,**
**... "Віцебскага рабочага".**

◆ *НАЦЫЯНАЛЬНЫ БАНК ПАВЕДАМЛЯЕ*

## Патрабаванні кліента заўсёды справядлівыя, калі долар сапраўдны...

Самай строгай мерай — прыпыненнем дзеяння ліцэнзій на заключэнне валютна-абменных аперацый — прыгразіў Нацыянальны банк усім камерцыйным банкам, у чыіх абменных пунктах няма сродкаў праверкі долараў на сапраўднасць і таму часта неабгрунтавана адмаўляюць кліентам у прыёме доларавых купюр, знешні выгляд якіх не самы лепшы.

Прыняць такое рашэнне прымусілі шматлікія запыты ўпаўнаважаных банкаў і іх кліентаў, звязаныя з засіллем на валютным рынку фальшывых долараў і частымі ў апошні час выпадкамі, калі падставай для адмовы ў куплі валюты з'яўляюцца розныя дэфекты банкнот. У гэтай сувязі Нацыянальны банк паведамляе, што долары ЗША ўсіх гадоў эмісіі, пачынаючы з 1928, з'яўляюцца законным плацежным сродкам і павінны беспарашкодна купляцца і прадавацца. Таму ўсім, хто хоць зрэдку звяртаецца ў абменныя пункты, трэба памятаць — дэфекты доларавых паперак у выніку натуральнага зносу: забруджванні, надрывы, пацёртасці, а таксама дробныя плямы і надпісы, што не змяняюць асноўных прымет плацежнасці, не могуць быць прычынай адмовы пры абмене грошай. У той жа час усім работнікам банкаў, абменных пунктаў, прадпрыемстваў, якія маюць справу з купляй-продажам валюты, трэба абзавесціся дэтэктарамі сапраўднасці, тэстарамі, а таксама інфармацыяй, якая даецца Нацбанкам, для выяўлення фальшывак. Акрамя таго, банкірам і касірам не трэба забываць, што патрабаванні кліента заўсёды справядлівыя, калі долар сапраўдны.

Кацярына ВЫСОЦКАЯ,
Белінфарм.

Мінск.




Позвоните по телефону
37-45-63,
и лучшие специалисты газеты сделают Вашу рекламу яркой
и запоминающейся.
«ВІЦЕБСКІ РАБОЧЫ» —
К ВАШИМ УСЛУГАМ!

# РЭКЛАМА. АБ'ЯВЫ.

**ДЛЯ ФЕРМЕРОВ И ЖЕЛАЮЩИХ ИМИ СТАТЬ!**

Факультет повышения квалификации Витебского ветинститута с 17 января 1994 года проводит 1-месячные курсы.

**Вы получите все необходимые знания для организации и ведения фермерского хозяйства!**

В программе: обязательный курс, факультативный курс (подготовка тракториста-машиниста, водителя категории Б, пчеловода, пользователя ПЭВМ).

Обучение по обязательному курсу бесплатное, по факультативному — платное.

Заявки направлять по адресу: 210619, г.Витебск, ул. 1-я Доватора, 7/11, ФПК. Тел. 37-04-34.

**Счастливого Рождества!**

ОКТЯБРЬСКОЕ ОТДЕЛЕНИЕ СБЕРЕГАТЕЛЬНОГО БАНКА №8097 Г.ВИТЕБСКА ПОЗДРАВЛЯЕТ СВОИХ ВКЛАДЧИКОВ И СООБЩАЕТ:

С 1 ДЕКАБРЯ 1993 ГОДА УВЕЛИЧЕНЫ ПРОЦЕНТНЫЕ СТАВКИ ПО ВКЛАДАМ:
— СРОЧНЫМ — 250% ГОДОВЫХ,
— НАКОПИТЕЛЬНЫМ — 270% ГОДОВЫХ,
— ЦЕЛЕВЫМ ВКЛАДАМ НА ДЕТЕЙ — 300% ГОДОВЫХ.

ПРОЦЕНТНАЯ СТАВКА ПО ВКЛАДУ ДО ВОСТРЕБОВАНИЯ С 1 ЯНВАРЯ 1994 ГОДА—60% ГОДОВЫХ.

НАШ СБЕРБАНК ОКАЗЫВАЕТ СЛЕДУЮЩИЕ УСЛУГИ:
— ПРИЕМ СРЕДСТВ НАСЕЛЕНИЯ ВО ВКЛАДЫ,
— ВЫПЛАТУ ЗАРПЛАТЫ ОРГАНИЗАЦИЯМ,
— ОТКРЫТИЕ РАСЧЕТНЫХ СЧЕТОВ ПРЕДПРИЯТИЯМ И ПРЕДПРИНИМАТЕЛЯМ,
— ВАЛЮТНЫЕ ОПЕРАЦИИ,
— РАСЧЕТНО-КАССОВОЕ ОБСЛУЖИВАНИЕ.

МЫ ОБСЛУЖИВАЕМ ВСЕХ БЕЗ ПРИВИЛЕГИЙ.
ЖДЕМ ВАС В НАШЕМ БАНКЕ!



Расходные материалы к копировальным аппаратам:
"ЭРА", "РЭМ",
"ЭР-300/420/620", "ЛЕТА",
"CANON", "MITA",
"SHARP", "RICOH", "XEROX".
Фирма "Рокут"
тел./факс: (0172) 25-32-82

**ВЕРМУТ**
венгерский, полусладкий
Pannonia
(1л),
красный,
белый.
**ОПТОМ, МЕЛКООПТОМ.**
Форма оплаты — любая.
☎ (0172) 62-80-49, 32-11-66.

БОЧЕЙКОВСКАЯ ПМК-3
РЕАЛИЗУЕТ
кирпич глиняный в неограниченном количестве по наличному и безналичному расчету. Цена за 1 шт. — 100 руб.
Адрес: Витебская область, Бешенковичский р-н,
д.Бочейково.
Тел.: 2-75-85, 2-37-83.

# ЧЫТАЧ-ГАЗЕТА

## Чытаем штрыхавы код

*У камерцыйных кіёсках, камісійных ды і дзяржаўных магазінах прадаецца шмат замежнага тавару. Іншы раз нават цяжка вызначыць, у якой краіне ён выраблены. Кажуць, што іншаземцы свабодна чытаюць штрыхавы код, змешчаны на ўпакоўцы. Навучыце, калі ведаеце, і нас. Цікава ж, адкуль прыбыў тавар.*

Н.БАРАНАВА.

г. Віцебск.




Кожная краіна абазначаецца не толькі адпаведнымі палоскамі ў штрыхавым кодзе, але і лічбамі пад ім. Вось так расшыфроўваюцца толькі некаторыя з іх. Калі стаяць лічбы 00.01.03.04.06 — гэты тавар зроблены ў ЗША і Канадзе. Код Францыі — 30-37, ФРГ — 40-43, Японія — 49, Вялікабрытанія — 50, Паўночная Ірландыя — 50, Грэцыя — 52 (0), Кіпр — 52 (9), Бельгія і Люксембург — 54, Партугалія — 56 (0), Ірландыя — 56 (9), Аўстрыя — 90-91, Аўстралія — 93, Данія — 57, ЮАР — 60(0)-60 (1), Фінляндыя — 64, Нарвегія — 70, Ізраіль — 72(9), Швецыя — 73, Швейцарыя — 76, Італія — 80-83, Іспанія — 84, Чэхія, Славакія — 85(9), Югаславія — 86(0), Турцыя — 86 (9), Нідэрланды — 87.

## З ільготамі давядзецца пачакаць

*Мне 57 год, ужо на пенсіі. У красавіку гэтага года атрымаў другую групу інваліднасці. Жонцы 54 гады, яна таксама пенсіянерка. Ці маем мы права на 50-працэнтную скідку аплаты за дамашні тэлефон?*

Г.МАТРОСКІН.

г. Віцебск.

З абласнога вытворча-тэхнічнага ўпраўлення сувязі нам паведамілі, што падобнымі льготамі могуць карыстацца непрацуючыя ветэраны працы, якія атрымліваюць пенсію па ўзросту (мужчыны — з 60 год, жанчыны — з 55 год) і якія пражываюць асобна ад дзяцей і іншых родных або сумесна з непрацаздольнымі членамі сям'і. Такім чынам, паважаны Г.М.Матроскін, вы з жонкай пакуль не маеце права на льготы па аплаце тэлефона. Вы зможаце імі карыстацца пасля дасягнення вамі 60 гадоў, або вашай жонкай — 55 гадоў, але пры ўмове, што тэлефон будзе афармлены на яе.

## Нафта ёсць, але яе мала...

*Я ледзь не пасправачалася са сваімі знаёмымі. Яны сцвярджаюць, што ў нашай рэспубліцы нафты няма, а я кажу, што ёсць. Толькі не ведаю, якія яе запасы і колькі здабываецца зараз? Адкажыце, калі ласка, на маё пытанне.*

Г.СІДАЛА.

г. Віцебск.

Паважаная Ганна Мікалаеўна! Праўда на вашым баку — нафта ў Беларусі ёсць, і яна здабываецца. Але разведаныя запасы яе невялікія — па розных ацэнках ад 60 да 80 мільёнаў тон. Былі часы, калі ў рэспубліцы здабывалі да 7 мільёнаў тон нафты ў год. Затым адбылося згортванне здабычы да 2 мільёнаў тон. Прычына вядомая — з Расіі паступала нафты столькі, колькі трэба было. Зараз у сувязі з крызісам яе здабычу мяркуецца падняць да 5 мільёнаў тон у год. Няцяжка падлічыць, на колькі нам хопіць сваёй нафты.

*Продается дизельное топливо (цена 0,18 доллара США) и бензин А-76 (цена 0,22 доллара США).*

*Способ поставки — самовывоз. Возможен расчет российскими рублями.*

*Наш адрес: Литва, г. Утяна, ул. Майронё, 12.*

*Тел. (8-01239) 52-9-20.*

*Заснавальнік — працоўны калектыў рэдакцыі*
*Галоўны рэдактар*
*У. Р. СКАПА*



210601,
ГСП, г. Віцебск,
вул. Гогаля, 17





прыёмная рэдактара—37-34-40, намеснік рэдактара—37-06-89, камерцыйны дырэктар—37-33-06, сакратарыят—37-02-11, 37-45-63, аддзел пісьмаў і сувязей з чытачамі—37-30-43, служба навін—37-31-56, аглядальнікі: па пытаннях работы Саветаў народных дэпутатаў—37-01-45, па пытаннях грамадска-палітычнага жыцця—37-31-56, па пытаннях культуры, адукацыі і нацыянальнага адраджэння—37-74-43, па прамыслова-эканамічных пытаннях—37-06-54, па пытаннях сельскага жыцця—37-06-54, па пытаннях маралі і права—37-31-34, па пытаннях ваенна-патрыятычнага выхавання—37-35-44, аддзел ілюстрацыі і афармлення—37-02-11, рэдактар "Рекламного приложения"—37-45-63, бухгалтэрыя—37-03-69, старшы інспектар па аб'явах—37-21-60. Карэспандэнцкія пункты: Орша—2-42-98, Полацк—4-52-47, Глыбокае—2-19-33, Шуміліна—2-12-40.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні неабавязкова адлюстроўваюць пункт гледжання рэдакцыі.

Газета выходзіць па аўторках, серадах, пятніцах і суботах.

Набрана і звярстана МКП «ФАРМАТ». Надрукавана афсетным спосабам у абласной узбуйненай друкарні імя Камінтэрна. Віцебск, Шчарбакова-Набярэжная, 6. Аб'ём — 1 друкаваны аркуш. Фармат А3. Індэкс 63913. Тыраж 23403. Зак. 162.

«ВИТЕБСКИЙ РАБОЧИЙ»— областная независимая массовая газета. На белорусском языке.

Коллектив Витебского областного производственного объединения "Фармация" глубоко скорбит в связи со смертью бывшего инспектора-провизора отдела организации обеспечения медикаментами, медтоварами и фармацевтической информации МОЛОЧКОВОЙ Валентины Михайловны и выражает соболезнование родным и близким умершей.

Организация реализует
за наличный и по безналичному
расчету кирпич силикатный
и блоки газосиликатные.
Оказывает услуги по доставке.
Телефон для справок 37-83-75.